

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№230 (743) 25 лістапада 1993 г. Чацвер. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 500023 экз. Кошт у розніцу — 25 руб.

## ФАКС

### "Народная", как всегда, на высоте!

**Социологической службой информационного агентства РИД проведен опрос 40 наиболее рекламирующих себя белорусских коммерческих фирм.**

На основе полученной информации определена рекламная эффективность некоторых республиканских средств массовой информации. Наивысший рейтинг по упоминанию среди газет получила "Народная газета".

### ЕС стало ближе

**Белорусская делегация, возглавляемая заместителем председателя Госвнешэкономсвязи А.С.Атрощенко, провела в Брюсселе второй раунд переговоров с комиссией ЕС и странами-участницами по проекту соглашения о партнерстве и сотрудничестве.**

Данное соглашение, охватывающее сферы сотрудничества от политического диалога до науки, техники и культуры, явится важным шагом на пути сближения Беларуси с европейскими сообществами.

Переговоры прошли в обстановке доброжелательности и взаимопонимания. Был достигнут прогресс в обсуждении текста соглашения. Стороны приняли ряд согласованных дополнений и предложений.

### Все для дома

**Белорусская фирма "Экспосервис" организует в Минске с 30 ноября по 3 декабря первую ярмарку-салон "Все для дома".**

Участие в ней примут предприятия Беларуси, Украины, России, Германии и Польши.

Посетители Дворца искусства, где пройдет ярмарка-салон, смогут ознакомиться со строительными комплектующими материалами, оборудованием и инструментами для ремонтных работ, мебелью, бытовой техникой, предметами и материалами декоративного оформления интерьера.

**Виктор ХОРОШКО.**

### Дежурная часть

2.747 "ничейных" газовых баллончиков нашли контролеры Брестского пограничного контроля в межпотолочном пространстве одного из вагонов поезда Вюнсдорф—Москва.

❑

В пограничном пункте пропуска "Бенякони-2" (Сморгонский район) иной улов — 770 граммов конопли, укрытой в межпотолочном пространстве туалета поезда Симферополь—Рига. Владельцев наркотического сырья тоже не удалось отыскать.

### Если кто-то нахимичил...

**В Краснопольском, Славгородском и других районах Могилевщины, а также в облисполкоме и ряде учреждений началась углубленная проверка использования "чернобыльских" средств.**

Группу прокуроров, в которую вошли работники местных правоохранительных органов и республиканской прокуратуры, возглавляет заместитель Генерального прокурора республики И.Сащеко.

Поводом для проверки послужили многочисленные сигналы об использовании этих средств не по назначению.

**Николай КОМЛЕВ.**

### Вкратце

**В связи с принятием Верховным Советом Беларуси постановления о путях выхода республики из кризиса вчера состоялась пресс-конференция с участием представителей руководства белорусского парламента.**

Подробнее о ней газета расскажет в следующем номере.

❑

**По мнению обеих сторон, визит делегации парламента Румынии в Республику Беларусь был плодотворным.**

"Мы довольны развитием белорусско-румынских отношений и надеемся на продолжение диалога", — отметил, в частности, Председатель Верховного Совета Беларуси С.С.Шушкевич.

❑

**Около 20 человек со стороны нападавших были убиты в ходе отражения атаки, предпринятой боевиками исламской партии Возрождения на 12-ю заставу Московского погранотряда на таджикско-афганской границе.**

По предварительным данным, обстрел был произведен не с афганской, а с тыла — с таджикской территории, где в труднодоступных горных районах скрывается значительная группа боевиков оппозиции.

❑

**Распоряжением президента России Бориса Ельцина назначено служебное расследование по факту утечки из аппарата президента информации, которая была опубликована в газете "Коммерсантъ".**

"Коммерсантъ" опубликовал в качестве указа президента документ "О регулировании аудиторской деятельности в Российской Федерации". Как отмечает пресс-служба, ни это ведомство, ни канцелярия президента не распространяли подобного указа.

❑

**С 1 декабря в Санкт-Петербурге и Ленинградской области будут введены временные правила регистрации и учета граждан на территории города и области.**

Регистрации подлежат те, кто прибыл в Санкт-Петербург на срок более трех суток. Для лиц, не являющихся гражданами России, разрешение на пребывание будет выдаваться ГУВД Санкт-Петербурга.

❑

**Хлебные карточки будут введены в Тбилиси ориентировочно 28 ноября, сообщил вице-мэр города Мэлор Ткешелашвили.**

По карточкам каждый тбилисец сможет получить по 400 граммов хлеба в день.

❑

**Четыре мотострелковых батальона и другие подразделения 27-й дивизии миротворческих сил России приступили к выполнению поставленных задач по поддержанию мира в Приднестровье.**

❑

**На участке нефтепровода Нефтеюганск—Южный Балык в районе поселка Сентябрьский 200 км северо-восточнее Тюмени произошел прорыв на одной из нитей нефтепровода.**

Пострадавших нет. На грунт вылилось около 3 тысяч тонн нефти.

❑

**Курс доллара на торгах Московской межбанковской валютной биржи вчера вновь вырос и составил 1213 рублей за доллар против 1208 рублей за доллар на торгах накануне.**

### Алло, Министерство связи? Ничего не видно!

**Вопросы, связанные с открытием 8-го телевизионного канала, закрытого по ряду причин в прошлом году, продолжают интересовать наших читателей.**

На днях руководители телекомпаний, которые на основе конкурса получили право вещания на 8-м канале, провели пресс-конференцию. Вопрос, интересующий всех: когда возобновится вещание? — остался открытым. По словам одного из представителей объединенной редакции 8-го канала П.Черноморца, уже сейчас они готовы работать — созданы технические условия, закуплены лицензионные фильмы, подобран штат сотрудников — но... Министерство связи Беларуси, уповая на неисправность передатчика, до сих пор не подписывает с редакцией договор. На конкретный вопрос: "Сколько ждать?" — связисты дипломатично отвечают: "Недолго".

Недолго — понятие растяжимое.

**Алесь СИВЫЙ.**

### Жириновский думает про Беларусь!

**Одним из немногих российских политиков, кто проявляет особое внимание к ближнему зарубежью, остается Владимир Жириновский.**

Правда, это внимание весьма своеобразно: он обещает полностью прекратить помощь всем республикам бывшего СССР. Выступая по Российскому телевидению, Жириновский "прошелся" по бывшим секретарям ЦК компартии Л.Кравчуку, Г.Алиеву, Э.Шеварднадзе, А.Бразаускасу и добавил: "А в Беларуси Шушкевич из этой же серии". Хотя С.Шушкевич никогда не был секретарем ЦК, Жириновский грозит лишить помощи и Республику Беларусь.

**Юрий ВИКТОРОВИЧ.**

### Тут уж никакой мост не выдержит

**Самый известный в республике мост — Варшавский — на ремонте.**

Сооружение, соединяющее у Бреста два берега пограничной реки Западный Буг, изрядно потрудилось, особенно в последние годы массового коммерческого туризма. Впрочем, неудобства для автотуристов относительные: на погранпереходе ремонтируется лишь одна из двух полос.

**Олег СУПРУНЮК.**

### Парафин, он и в Японии — парафин!

**На новополоцком ПО "Нафтан" подписаны проектные документы о создании двух совместных предприятий: белорусско-австрийского и белорусско-японского.**

Они будут добывать из нефти твердые парафины, которые являются ценным сырьем для химической промышленности, применяются для пропитки древесины, а также как изоляционный и лечебный материал.

**Сергей ВИТЕБСКИЙ.**



Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН и РИД.

*На сесii Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

# Мала цяжкасцей, дык яшчэ і кворум знікае

**Мікалай ГАЛКО**

Мінулы аўторак, як вядома, атрымаўся вельмі багатым на эмацыянальна-нервовыя ўсплёскі. Пасля чарговага абвінавачвання (на гэты раз ініцыятарам "отмщения" стаў дэпутат Віктар Кучынскі), пасля чарговага галасавання (рэйтынг Старшыні Вярхоўнага Савета апошнім часам павысіўся, магчыма, зрабіў добрае ўражанне ягоны справаздачны даклад) Станіслаў Шушкевіч не вытрываў і, напомніўшы, што ў яго таксама ёсць нервы, пакінуў залу.

І хаця менавіта ў аўторак пасля неверагодных цяжкасцей была прынята пастанова, дзе акрэсліваюцца шляхі выйсця з крызісу ў цэлым, ён атрымаўся драматычным. Лішняе таму пацвярджэнне — прайшоўшая ўчора прэс-канферэнцыя па выніках абмеркавання справаздачных дакладаў. Цікавым было выступленне старшыні пастаяннай камісіі Леаніда Козіка, чалавека глыбока дасведчанага, вопытнага і смелага ў сваіх меркаваннях. Прысутныя журналісты пачулі ад яго, што ўсё роўна Беларусі прыйдзецца абзавесціся ўласнай валютай, бо ў Расіі зашмат сваіх праблем і ёй не патрэбен беларускі "заяц". На думку Козіка, хутчэй за ўсё, аб'яднаць грашовыя сістэмы не атрымаецца. Ён таксама перакананы, што сесія — не лепшае месца для прыняцця рашэнняў аб валюце. Найбольш падыходзячы варыянт: ноч, дзве-тры высокія асобы — і раніцай краіна пачуе канчатковае рашэнне. Нармальным людзям (а нармальны чалавек па цяперашнім часе, відаць, бедны) няма чаго баяцца, бо ім няма чаго губляць. Тыя ж, хто мае запас у кішэні ці ў банку, могуць і падзяліцца...

У прынятай пастанове вызначаюцца два пункты: да 1 снежня даручана распрацаваць механізм увядзення ўласнай валюты, да 15 снежня ўрад павінен прадставіць у Вярхоўны Савет змяненні ва ўласнай структуры. Дэпутат Генадзь Грушавой выказаўся з гэтай нагоды так: "Прыняўшы такую пастанову, парламент распісаўся ва ўласным бяссіллі. Ён не ведае, што робіць, а выхад з крызісу даручае таму ж ураду, які і прывёў рэспубліку ў крызісную сітуацыю".

Дарэчы, аб структуры ўрада. На неканстытуцыйнасць асобных урадавых структур даўно ўказвала парламенцкая фракцыя "Згода". Урад належным чынам не адрэагаваў. Цяпер у кулуарах сесіі актыўна абмяркоўваецца ліст старшыні КДБ Эдуарда Шыркоўскага і міністра ўнутраных спраў Уладзіміра Ягорава. Не адрэагаваць на яго немагчыма — вельмі прыкметныя асобы ўслых загаварылі аб недарэчнасцях на ўрадавым караблі. Хаця цяжка спадзявацца, што парламенцкая большасць, цесна звязаная з Саўмінам, пойдзе на радыкальныя рашэнні.

Пасля цяжкіх спрэчак па пастанове дэпутаты ў аўторак здолелі прыняць шэраг законаў. Сярод якіх "Аб асновах службы ў дзяржаўным апараце" (Палажэнне аб неабходнасці прысягі чыноўніцтвам не прайшло), "Аб санітарна-эпідэмічным кантролі".

Учарашні дзень паказаў, што ўжо многім дэпутатам сесія паспела надакучыць і яны праігнаравалі пасяджэнне. Абмеркаванне законапраектаў "Аб грамадскіх аб'яднаннях" і "Аб альтэрнатыўнай службе" атрымалася скамечаным. Праўда, першы вырашана разглядаць у звязцы з праектам аб палітычных партыях. Галасаванне па артыкулах "Аб альтэрнатыўнай службе" сарвалася, бо не было кворуму.

Гэта выкарысталі ў сваіх мэтах палітыкі. "Вярхоўны Савет, — сказаў дэпутат Уладзімір Станкевіч, — выпрацаваў свой патэнцыял, ён знаходзіцца на нулі. Трэба праводзіць датэрміновыя выбары".

Што рабіць з прагульшчыкамі-дэпутатамі? Сакраментальнае пытанне. Уздымаюць яго даўно, не спадзеючыся на перавыхаванне. Але і не ўздымаць нельга. У выніку парадак дня ўзбагаціўся яшчэ адным пунктам — "Аб забеспячэнні парадку работы сесіі і барацьбе з дэпутацкімі прагуламі". У нас ужо калі крызіс, то крызіс усюды.

Тым не менш найцярплівейшая частка дэпутатаў змагла прыняць шэраг законаў.

❑

Дэпутат Васіль Чэпік абвясціў аб стварэнні фракцыі Народнага руху Беларусі. Функцыянеры гэтага грамадскага ўтварэння не стамляюцца пераконваць чытачоў і слухачоў, што яны прадстаўляюць большасць народа Беларусі. Але ім нікога не ўдасца ўвесці ў зман, народ здолее выказацца на выбарах, для гэтага няма сэнсу маніпуліраваць міфічнымі звесткамі.

У Вярхоўным Савеце рух прадстаўляюць камуністы і ветэраны. Мяркуйце самі, што за рух...

*Усміхнёмся з мастаком?*



Малюнак Алега ПАПОВА.

*Хроніка*

### Падлік страт у сельгасвытворчасці ідзе на мільярды

**На лістапад бягучага года задоўжанасць калгасаў і саўгасаў Віцебскай вобласці толькі па пазыках банка і неплацяжы пастаўшчыкам дасягнулі амаль што 30 мільярдаў рублёў.**

Заклапочаныя крызісным станам сельскай гаспадаркі Віцебшчыны, Савет калгасаў і Саюз аграрнікаў вобласці выступілі з заявай. У ёй, у прыватнасці, яны настойваюць на тэрміновым прыняцці Вярхоўным Саветам і Саветам Міністраў Беларусі праграмы вываду аграпрамысловага комплексу з крызісу, у якой прапануецца прадугледзець кампенсацыю сельгасвытворцам страт ад парушэння парытэту цэн на сельскагаспадарчую і прамысловую прадукцыю ў 1993 годзе, а таксама выдзеліць у бягучым годзе аграпрамысловаму комплексу 80 мільярдаў рублёў крэдытных рэсурсаў.

**Ян КАПЫЛЬСКІ, БелаПАН.**

*Куды ідзём, урад?*

### Пакуль у Мінску гавораць, на вёсцы ўжо заплакалі...

**Павел СТАСЕВІЧ**

Нечаканыя восеньскія маразы, відаць, у некаторых месцах Беларусі вось-вось гатовы зусім "дацiснуць" сельскую гаспадарку.

Не верыце, гараджане? Абураецеся, што малако падаражэла і няма смятаны?.. Дарэмна. Лепш паслухайце трохі, пра што гэтымі днямі тэлефануюць вяскоўцы ў аграрны аддзел "Народнай газеты".

З усіх званкоў выбіраю адзін, найбольш трывожны за ўчарашні дзень — з Любанскага раёна.

— Што ж гэта, людцы, дзеецца? Хоць ты бяры нож і рэж усіх кароў! Учора ў нас не вывезлі цэнтравывазам (няма паліва) малака з калгасаў "Ленінскі шлях" (ферма Мардвінавічы), "Рассвет" (ферма Пласток), трох фермаў калгаса "Перамога", усіх ферм эксперыментальнай базы "Любанская", калгасаў імя КБВА, імя Гарбачова.

А яшчэ гаспадаркі атрымалі тэлефанаграму: электраэнергія будзе адключацца з 5 да 8 гадзін раніцы і ў такі ж час вечарам. Гэта ж самая гарачая пара ў жывёлагадоўлі! Рукамі, ці што, даіць кароў? А парасят — памарозіць?!

Да чаго ж гэта мы дажыліся? Ляснуць нашы фермы — то і ў Мінску малака не чакайце!..

❑

Паклалі трубку ў Любані, паднялі ў Лагойску — старшыня калгаса імя Будзённага Сяргей Мікалаевіч Стражнікевіч:

— "Народная"? Скажыце, вёсцы ўжо аб'явілі ўлады вайну ці толькі збіраюцца? У нас заўтра таксама адключаюць электраэнергію. А пра адносіны да аграрнікаў, так званы парытэт цэн па ўрадавай сістэме, — ужо і гаварыць не магу. Загналі нас у кут поўнасцю!

Гляджу вось сесію і зусім сумна становіцца: адны словы, а сітуацыяй ніхто не валодае. Сорамна!..

Ну што тут дадаць?

На самай справе — сорамна.

Дык куды рулюеш, урад?..

*У камісіях Вярхоўнага Савета*

# З прагнозам жыцця — урадавыя "сіноптыкі"

**З падрыхтаваным урадавымі "сіноптыкамі" прагнозам жыцця рэспублікі на 1994 год азнаёміліся 22 лістапада Планавая і Бюджэтна-фінансавая камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. На суд дэпутатаў упершыню былі прадстаўлены эканамічная праграма ўрада на 1994 год і пытанні бюджэтнай палітыкі, якія абвясцілі намеснік Старшыні Савета Міністраў, старшыня Дзяржэканамплана рэспублікі Сяргей Лінг і першы намеснік міністра фінансаў Мікалай Румас.**

Эканамічная праграма, у якую закладзены элементы абавязацельстваў, — вынік сумеснай работы Дзяржэканамплана з міністэрствамі, ведамствамі, галінамі, Нацыянальным банкам. Як паведаміў Сяргей Лінг, пры яе распрацоўцы на першы план было вынесена прыняцце антыінфляцыйных мер. "У апошні час склалася вельмі складаная абстаноўка — толькі за апошнія 10 месяцаў нацыянальны даход знізіўся на 10 працэнтаў, а інфляцыя ў лістападзе ўжо склала ўсе 47 працэнтаў. Таму блок мер, разлічаных на пераадоленне інфляцыі, уключае абмежаванне грашовай масы, жорсткую крэдытную палітыку, рэгуляванне заработнай платы насельніцтва. Галоўным будзе свабоднае цэнаўтварэнне пры захаванні на працягу пэўнага часу датацый на некаторыя катэгорыі харчовых тавараў. Пры гэтым рост цэн прагназіруецца не ў 12—15 разоў, як у бягучым годзе, а ў 3,5—4 разы", — сказаў Сяргей Лінг.

Фундаментам, на якім пабудавана ўрадавая праграма, стала захаванне і ўмацаванне тандэма "Беларусь—Расія", а асноўнымі паказчыкамі, ад якіх, як кажуць, "танцавалі" аўтары дакумента, сталі разлікі, па якіх рэспубліка спадзяецца атрымаць ад Расіі ў наступным годзе 16—18 мільёнаў тон нафты, 21 мільярд кубаметраў газу, 2 мільёны тон пракату, да 3 мільёнаў тон збожжа і іншую сыравіну. У сувязі з гэтым членамі камісіі правамерна было зададзена пытанне: якія меры прадугледжаны ўрадам на той выпадак, калі надзеі на трывалы эканамічны саюз з Расіяй не апраўдаюцца?

— Першачарговай мерай стане спыненне энергаёмістых вытворчасцей, а значыць, як мінімум на адну трэць знізяцца аб'ёмы вытворчасці з усімі зыходзячымі адсюль вынікамі, — адзначыў Сяргей Лінг.

Другім пытаннем, прадстаўленым на камісію, стаў бюджэт рэспублікі на 1994 год. Прагноз намесніка міністра фінансаў Мікалая Румаса аказаўся не менш змрочным. "Фарміраванне бюджэту будавалі на палітыцы жорсткай эканоміі, — сказаў ён. — Каб пераадолець крызіс у валютна-фінансавай сістэме, урад прапануе: утрымаць дэфіцыт бюджэту на ўзроўні гэтага года змяненнем падатковага заканадаўства ў бок змяншэння падаткаў, стымуляваць экспарт, рэзка абмежаваць дзяржрасходы, у крэдытнай палітыцы — абмежаванне крэдытных укладанняў, сфарміраваць дзяржаўны валютны фонд праз куплю валюты па рынначнаму курсу праз біржу. У гэтай сувязі павінен сказаць, што камісія Міжнароднага валютнага фонду прапанавала некалькі іншае рашэнне. У прыватнасці, дэфіцыт бюджэту павінен скласці не 6 працэнтаў валавога прадукту, а 4. Акрамя таго, лібералізацыя цэн павінна ісці больш хуткімі тэмпамі, асабліва на харчовую прадукцыю, а таксама неабходна адмовіцца ад фарміравання адміністрацыйнымі метадамі валютнага фонду".

Камісія Вярхоўнага Савета знайшла недапрацаванымі абодва дакументы і вынесла рашэнне прадоўжыць работу над імі на чарговых пасяджэннях камісіі. Дэпутаты адзначылі, што неабходна надаць "адраснасць" сацыяльнай абароне, гэта значыць, датаваць не галіны, а само насельніцтва. Акрамя таго, у праграме Саўміна павінен быць выкладзены механізм яе ажыццяўлення, пакуль жа ёсць толькі намеры. Адносна бюджэту камісія прыйшла да рашэння адшукаць напрамкі, па якіх можна зменшыць яго дэфіцыт.

## Паліва — дзяржрэзервовае, але і яго засталося на тыдзень...

"На сённяшні дзень мы поўнасцю зрасходавалі запасы паліва і працуем на дзяржрэзерве. Але і яго засталося толькі на тыдзень".

Такую заяву зрабіў міністр энергетыкі Валянцін Герасімаў, выступаючы на пасяджэнні Планавай і бюджэтна-фінансавай камісіі Вярхоўнага Савета рэспублікі, якое адбылося вечарам 22 лістапада.

Як паведаміў галоўны энергетык рэспублікі, асноўная праблема галіны цяпер у разліках за нафту, газ і іншую купляемую электраэнергію.

— Агульная сума доўгу сёння складае 140 мільярдаў рублёў. У тым ліку Расіі мы павінны 28 мільярдаў рублёў. Прыемна, што з Балтыяй ужо разлічыліся, — паведаміў Валянцін Герасімаў.

Гаворачы аб адносінах галіны з прадпрыемствамі, кіраўнік міністэрства адзначыў, што прамыслоўцы часта папракаюць энергетыкаў у тым, што ім аплачваць энергію прыходзіцца па біржаваму курсу расійскай валюты да беларускіх разліковых білетаў. У той жа час, самі энергетыкі не купляюць расійскія грошы на біржавым рынку для аплаты закупляемых у Расіі энерганосьбітаў. "Павінен сказаць, — заўважыў Валянцін Герасімаў, — што ў рэспубліцы на сёння недастаткова магчымасцей купіць неабходныя нам расійскія рублі. Калі энергетыкі са сваёй патрэбнасцю ў расійскай валюце выйдуць на біржу, то курс рубля імгненна "ўзляціць" уверх, а гэта не выгадна нікому".

**Кацярына ВЫСОЦКАЯ, Белінфарм.**

*г.Мінск.*

